MICRO-SERIES

IDW

#8 • REG CVR

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

ALLOR
DUNCAN
HERRING

## VILLAINS SHREDDER



.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ.
МІКРАСЕРЫЯ #16
ЗЛОДЗЕІ: ШРЭДАР
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY



ComicsBY.by прадстаўляе на беларускай мове:

# МІКРА-СЕРЫІ ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ НІНЗЯ ЧАРАПАШКІ

*злодзеі*

























...АМАЛЬ УСЕ.




НА ГЭТЫМ УСЁ.


ЧАМУ ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТУТ, КІЦУНЭ?


КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ХТОСЬЦІ ЎЗГАДВАЕ ТВАЁ... НЕЗВЫЧАЙНАЕ МІНУЛАЕ, ТЫ...


У МЯНЕ НЯМА НА ГЭТА ЧАСУ.
...ЗАКАНЧВАЕШ РАЗМОВУ.


Я СПРАБАВАЛА ЗРАЗУМЕЦЬ, У ЧЫМ ПРЫЧЫНА. АЛЕ ТЫ НЕ ТЛУМАЧЫШ.
ТАКІ МОЙ ВЫБАР.


РАНЕЙ ЁН НЕ ШКОДЗІЎ ТАБЕ. АЛЕ ЗАРАЗ МАГУТНАСЦЬ ТВАЯ ЗНАЧНА БОЛЬШ.
А ГЭТАЯ ТАЯМНІЦА... РОБІЦЬ ЦЯБЕ СЛАБЕЙ.




СТАГОДДЗІ НАЗАД, ПЕРАД МАЁЙ СМЕРЦЮ... ТЫ СКАЗАЛА, ШТО Я ЎВАСКРЭСНУ Ў ГЭТЫМ ЖА ЦЕЛЕ.
АЛЕ ТЫ НІКОЛІ НЕ КАЗАЛА, КУДЫ НАКІРУЕЦЦА МАЯ ДУША.
ТАМУ ШТО НЯ ВЕДАЛА.
РАСКАЖЫ Ж МНЕ, АРОКУ САКІ...


КУДЫ ЯНА ТРАПІЛА?


«Туды, куды ўходзяць усе, чый зямны шлях наблізіўся да канца».


«Проста я трапіў туды загадзя».








О! Выдатна.


Я цябе чакаў.


Гэта... гэта ж...
Што я тут раблю?
Добрае пытанне, ці не праўда?
Гэта мясціна мерцвякоў. Усе іншыя – сталыя яе жыхары. Але не ты. Ты тут проста госць, які затрымаўся паміж жыццём і смерцю.


І я тут, каб папярэдзіць цябе – не парушай звыклы парадак рэчаў.
Дазволь мясцовым адчуць трохі супакою. Інач тваё жыц-цё насамрэч згасне. Назаўжды. Ніякіх больш ўваскрэшанняў. Ніякіх падманаў смерці.
Лічыш, што можаш за-браць маю душу?
О не, гэтыя справы так не робяцца. Мы не можам забраць тваю душу...


Але ты можаш **аддаць** яе нам.


«ПАПЯРЭДЖАННІ ЮНАКА БЫЛІ **ДАРЭМНЫЯ**. Я БАЧЫЎ ТОЛЬКІ ЧАРГОВУЮ МЭТУ ДЛЯ АВАЛОДАННЯ».
«ТАМУ, Я РУШЫЎ НАПЕРАД, НАСУСТРАЧ ДАЛЁКАЙ КРЭПАСЦІ».
«КАЛІ Ў ГЭТАГА МЕСЦА І БЫЎ ВАЛАДАР, Я ВЕДАЎ, ШТО ЗНАЙДУ ЯГО МЕНАВІТА ТАМ».
«ДНЯМІ Я ЙШОЎ ПРАЗ МЯСЦОВАСЦЬ, ЗАПОЎНЕНУЮ КЛАПАТЛІВЫМІ ДУШАМІ».


«У ІХ, БЫЦЦАМ У ЦЕНЯХ НА СЦЯНЕ, НЕ БЫЛО НІ МЭТЫ, НІ СЭНСА, НІ СІЛЫ ПЕРААДОЛІЦЬ ЛЁС».
«Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ЎСЕ ЯНЫ – НЕ БОЛЬШ, ЧЫМ СЛАБЫЯ ВОДБЛІСКІ РА-НЕЙШЫХ САМІХ СЯБЕ».


«ЖУДАСНЫ КАНЕЦ. І ЁН ЧАКАЎ УСІХ МУЖ-ЧЫН І ЖАНЧЫН НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ».
«Я ПАКЛЯЎСЯ ПАЗБЕГНУЦЬ ЯГО».


«ПАД ЧАС БЛУКАННЯ Я ПАТРАПІЎ НА НЕСПАКОЙНЫХ САЛДАТАЎ, ЯКІЯ САБРАЛІСЯ РАЗАМ У ЗАМАГІЛЬНЫМ ЖЫЦЦІ».


«ЯНЫ НЕ БЫЛІ МАІМІ ВОРАГАМІ, ТАМУ Я НЕ НАБЛІЖАЎСЯ ДА ІХ».


«ПАКУЛЬ НЕ АГЛЯДЗЕЎ КРЭПАСЦЬ З БІЗКАЙ АДЛЕГЛАСЦІ. ЯЕ ДОБРА АБАРАНЯЛІ. ВАРТА СТАЯЛА З УСІХ БАКОЎ».
«МНЕ ПАТРЭБНА БЫЛО НЕЯК АДЦЯГНУЦЬ ІХ УВАГУ, КАБ ПРАСКЛІЗНУЦЬ МІМА».


«ТАМУ Я ВЯРНУЎСЯ ДА ГРУПЫ ВОІНАЎ, СПАДЗЯЮЧЫСЯ, ШТО ЗМАГУ ВЫКЛІКАЦЬ У ІХ ЖАДАННЕ АДЧУЦЬ СЛАВУТАСЦЬ, КАЛІ ЯНЫ АТРЫМАЮЦЬ ПЕРАМОГУ Ў ХУТКІМ БАІ».
«ЯНЫ НАКІНУЛІСЯ НА МЯНЕ Ў ТОЙ ЖА ЧАС. ЯК Я І ЎЯЎЛЯЎ».


«БОЛЬШАСЦЬ ЗМАГАЛАСЯ ПА ПЭЎНАЙ СХЕМЕ. І КОЖНАЯ З ІХ МЕЛА СВАЁ СЛАБАЕ МЕС-ЦА. ДАСТАТКОВА БЫЛО ВЫЗНАЧЫЦЬ ЯЕ, ХУТКА НАНЕСЦІ ЎДАР – І СТАНЕШ ПЕРАМОЖЦАМ».


«ХТОСЬЦІ Б'ЕЦЦА Ў НІЗКАЙ СТОЙЦЫ, ТЫМ САМЫМ ДАЗВАЛЯЮЧЫ ЎДАРЫЦЬ ПА ТВАРЫ».


«ХТОСЬЦІ – ВЫКЛЮЧНА НА БЛІЖНІХ АДЛЕГЛАС-ЦЯХ, ДАЗВАЛЯЮЧЫ СУПЕРНІКУ АДЫЙСЦІ НАЗАД І НАНЕСЦІ СВОЙ УДАР».


«НУ А НЕКАТОРЫЯ – ПРОСТА ПЕДАНТЫ, ЯКІЯ ПРЫТРЫМЛІВАЮЦЦА ПРАВІЛ. ТАКІХ ЛЁГКА ЗДЗІВІЦЬ».


«АДНАК… МНОГІЯ ПРЫСТАСОЎВАЮЦЦА. ТОЛЬКІ ДАЙ ІМ ЧАС – І ЯНЫ ЗМЕНЯЦЬ ТАКТЫКУ, ЧАГО І ПАТРАБУЕ АД ІХ БОЙ».
«АЛЕ ГЭТЫЯ САЛДАТЫ БЫЛІ ВЫКЛЮЧЭННЕМ. ЯНЫ БІЛІСЯ БЕЗРАЗВАЖНА».
«МАЮЧЫ ТОЛЬКІ ДВЕ ПЕРАВАГІ: КОЛЬКАСЦЬ…»
«…І СЛЯПУЮ ЛІТАСЦЬ».
«Я АДЧУЎ, ЯК ХРУСНУЛІ РЭБРЫ І ПАВЕТРА ВЫЙШЛА З ЛЁГКІХ».
«АЛЕ Я НЕ ДУМАЎ ПРА БОЛЬ».

«БО БОЙКА ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ».


«ЯК ТОЛЬКІ Я ЎБАЧЫЎ, ШТО ГЭТЫЯ ВАЯРЫ ЛЯЦЯЦЬ НА МЯНЕ З АБРЫВУ, Я ЗРАЗУМЕЎ: ЧАС ЗМЯНІЦЬ МАЕ ПЛАНЫ».
«Я НЕ ЗАСЛУЖУ ІХ ПАВАГІ, ЗМАГАЮЧЫСЯ З ІМІ. МОЙ ЗАКЛІК ДА ПЕРАМОГІ ДАСЯГНЕ ГЛУХІХ ВУШЭЙ».


«МАБЫЦЬ ЯНЫ І БЫЛІ ВОІНАМІ ПРЫ ЖЫЦЦІ, АЛЕ ПАСЛЯ СМЕРЦІ СТАЛІ ПРОСТА ТАКІМІ Ж НЕСПАКОЙНЫМІ ДУХАМІ, ЯК І ЎСЕ».


«ЯНЫ ПРОСТА РУХАЛІСЯ, ВЫКОНВАЮЧЫ ТЫ Я Ж РОЛІ, ШТО І ПРЫ ЖЫЦЦІ».


«У ІХ НЕ БЫЛО НІ ЖАДАН-НЯ СКАРАЦЬ, НІ ПРАГНЫ ПЕРАМОГІ. НЕ БЫЛО НІ ЛІДЭРАЎ, НІ ТАКТЫКІ, НІ ПЛАНА».


«ЯНЫ ЖАДАЛІ АДНАГО – ЗМА-ГАЦЦА. БЯЗДУМНА. УВЕСЬ ЧАС».
ХОПІЦЬ!





МОЖАЦЕ БІЦЦА І, ВЕРАГОДНА, НАВАТ ПЕРАМАГЧЫ. АЛЕ ШТО ДАЛЕЙ?
УСЁ СКОНЧЫЦЦА. І ВЫ ЗАСТАНЕЦЕСЯ ТАМ ЖА, ДЗЕ Я ВАС І ЗНАЙШОЎ. БЕЗ ВОРАГАЎ. БЕЗ БІТВЫ.
ЦІ ВЫ МОЖАЦЕ ПАЙСЦІ ЗА МНОЙ... І БІЦЦА З АРМІЯЙ.



КАЛІ Я СЮДЫ ТРАПІЎ, МНЕ СКАЗАЛІ, ШТО ТУТ ПАЛЮЕ СПАКОЙ.



ДЫК ЦІ АДЧУВАЕЦЕ ВЫ ЯГО?



ВЫ Ж ВОІНЫ! ВЫ СТВОРАНЫЯ ДЛЯ БОЮ! ДЫК ІДЗІЦЕ ЗА МНОЙ У БІТВУ.



Я НЕ МАГУ АБЯЦАВАЦЬ ВАМ ПЕРАМОГУ.
АЛЕ МАГУ АБЯЦАЦЬ ІНШАЕ...



ПЕРАДЫХУ ТАМ НЕ БУДЗЕ.



НЕ БУДЗЕ ЖАЛКАГА СПАКОЮ!




«Я ПАВІНЕН БЫЎ СКАРЫСТАЦЦА СТАРАННАСЦЮ ВОІНАЎ»
«ДАЗВОЛІЦЬ ІМ БЫЦЬ ПРЫНА-ДАЙ, ПАКУЛЬ Я ПРАСКЛІЗНУ ПРАЗ ВОЙСКІ ПРАМА Ў ЗАМАК».


«НЕ БЫЛО ЧАСУ АНАЛІЗІРАВАЦЬ БАЯВЫ СТЫЛЬ ГЭТЫХ ДЭМАНАЎ, ЦІ ВЫСВЯТЛЯЦЬ ІХ СЛАБЫЯ МЕСЦЫ».
«АЛЕ КАЛІ НЕЎПЭЎНЕНЫ...»


«...ЦЭЛЯЙ У ВОЧЫ».




«КАЛІ Я АКАЗАЎСЯ ЎНУТРЫ, ШЛЯХ БЫЎ СВАБОДНЫ. МОЙ МАНЕЎР ВЫМАНІЎ УСЮ АРМІЮ ДЭМАНАЎ ВОНКІ».


«Я БЫЎ ВЕЛЬМІ БЛІЗКА. ХУТКА Я ЗАВАЮЮ, ХУТКА БУДУ КІРАВАЦЬ».
«НАСУПРАЦЬ МЯНЕ ЗАСТАЎСЯ ТОЛЬКІ КАРОЛЬ НА ТРОНЕ».


«Я БЫЎ ПОЎНЫ РАШУЧАСЦІ».
«ПЕРАМОГА БЫЛА Ў МАІХ РУКАХ».


«ІХ КАРОЛЬ УСТАЎ НА НОГІ НЕСПЯШАЮЧЫСЯ. НЯЦВЁРДА».




«СВЯТКАВАЦЬ РАНА: ГЭТА ДАСВЕДЧАНЫ БАЕЦ, І, ДА ТАГО Ж, МОЦНЫ ЯК ВОЛ».


«АЛЕ ДАСПЕХІ ЯГО ГРУВАСТКІЯ, А ДЫХАННЕ ЦЯЖКАЕ».
«ЁН БЫЎ СТАРЫКОМ. КАЛІСЦІ ВЯЛІКІМ ВОІНАМ, АЛЕ ЗАРАЗ ЗГАСЛЫМ».


«ТАМУ Я ВЫМАТАЎ ЯГО...»




«У ГЭТЫМ БЫЎ МОЙ ПЛАН ПЕРАМОГІ».


УПЭЎНЕНЫ...
...Я БЫЎ ТАК УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЗМАГУ ЦЯБЕ ПЕРААДОЛЕЦЬ. ШТО ЗМАГУ КІРАВАЦЬ... АДВЕЧНА.


А ЦЯПЕР...


...ЗАБІ!






ВОСЬ ВАШ КАРОЛЬ!
«Я ПЕРАМОГ. ЯК І ХАЦЕЎ. САМА ДУМКА ПРА ТОЕ, ШТО МЯНЕ МОГУЦЬ ПЕРААДОЛЕЦЬ, БЫЛА СМЕШНАЙ».


«АЛЕ ПОТЫМ...»


«МНЕ ПАКАЗАЛІ ТВАР МАЙГО ВОРАГА».


«ГЭТА БЫЎ Я».


ДЗЯКУЙ ТАБЕ.




ЯК? ЯК?
ЯК? О, САКІ. НЯЎЖО ТЫ ВЫРАШЫЎ, ШТО ТЫ АСАБЛІВЫ? ШТО ЗМОЖАШ АДВЕЧНА ГУЛЯЦЬ СА СМЕРЦЮ?
ДАВАЙ-КА Я РАСКАЖУ, ШТО ТАБЕ ПРЫНЯСЕ БУДУЧЫНЯ.


«ТЫ ПАВЯДЗЕШ ЗА САБОЙ АРМІІ».


«ТЫ АВАЛОДАЕШ СВЕТАМ».
«А ПОТЫМ ЯГО ЗНІШЧЫШ».


«САТРЭШ З ЗЯМЛІ ЧАЛАВЕЦТВА. ПАБУДУЕШ НОВЫ МІР, ЯКІМ БУДУЦЬ КІРАВАЦЬ АРМІІ ВАРВАРАЎ І ВЫРАДКІ-МУТАНТЫ».
«А ПОТЫМ ТЫ ПАМРЭШ. ЯК І ЎСЕ ЛЮДЗІ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ЯКІМІ Б МОЦНЫМІ ЯНЫ СЯБЕ НІ ЛІЧАЦЬ».


«І ТАК. ТАК, АРОКУ САКІ. ТЫ ЗАХОПІШ ЗАМАГІЛЬНЫ СВЕТ. АЛЕ ЧАС НЕ ІДЗЕ ПА ПРАМОЙ. ТОЛЬКІ НЕ ТУТ».
«І ТАМУ, АДНОЙЧЫ – СЁННЯ – ТЫ СУСТРЭНЕШ ЧАЛАВЕКА, ЧЫЯ ПРАГНА МАГУТНАСЦІ РАЎНУЕЦЦА ТВАЕЙ».
«АДЗІНАГА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЗМОЖА ПАКОНЧЫЦЬ З ТВАІМ ГАСПАДАРСТВАМ. І ПАДРЫХТУЕ ЦЯБЕ ДА ВЕЧНАЙ ВАНДРОЎКІ, НЕ ВЕДАЦЬ СУПАКОЮ, ЖЫЦЬ БЫЦЦАМ У КЛЕТЦЫ».


ВОСЬ ЯК.


АСТАТНЯЕ ТЫ ЎЖО ВЕДАЕШ. КАРАІ ЎВАСКРАСІЛА МЯНЕ. І СПАЧАТКУ, Я НІЧОГА ГЭТАГА НЕ ПАМЯТАЎ.
АЛЕ ПАСТУПОВА... УРЫВАК ЗА ЎРЫЎКАМ... ВЯРНУЛАСЯ ЎСЁ.


ТАМУ, ТАК. ГОРАД МОЙ.
АЛЕ ШТО ЁСЦЬ ГОРАД У ПАРАЎНАННІ З АДВЕЧНАСЦЮ?
САКІ... У ЦЯБЕ ВЫВАРОТЛІВЫ РОЗУМ. ГЭТА, НЕСУМНЕННА, БЫЎ ПРОСТА СОН. УРОК, ЯКІ ТЫ САМ САБЕ ДАЎ.


УРОК, ЯКІ ТАБЕ НАЛЕЖЫЦЬ ЗАПОМНІЦЬ. АЛЕ НЕ ТОЙ, ЯКІ ПАВІНЕН САПСАВАЦЬ ТВАЁ ЖЫЦЦЁ.


...
МАБЫЦЬ ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.
ДЗЯКУЙ ЗА ПАРАДУ.
КАНЕШНЕ.


Я ЗАЎСЁДЫ ГАТОВА ТАБЕ ДАПАМАГЦІ.


«Я НЕ РАСКАЗАЎ ЕЙ УСЁЙ ГІСТОРЫІ».
«Я НЕ ЎЗГАДАЎ, ШТО КОЖНЫ РАЗ БАЧУ ГЭТА Ў СНЕ. КОЖНУЮ НОЧ. КОЖНЫ ДЗЕНЬ. ЧАСАМ НАВАТ ПРОСТА ЗАПЛЮШЧЫЎШЫ ВОЧЫ».


«Я БАЧУ ЯГО».
«ЁН ТАМ. ЗАЎСЁДЫ. І НЯСТОМНА НАГАДВАЕ ПРА БУДУЧЫНЮ».


«НЕ. ПРА ВЕРАГОДНУЮ БУДУЧЫНЮ. ДЭМАНЫ ДАРЭМНА РАСКАЗАЛІ МНЕ ПРА ТОЕ, ШТО МЯНЕ ЧАКАЕ».
«ЦЯПЕР, ВЕДАЮЧЫ, ШТО СА МНОЙ БУДЗЕ, Я ЎСЁ ЗРАБЛЮ ПРАВІЛЬНА. СТАНУ МАЦНЕЙ. ЯШЧЭ МАГУТНЕЙ».
«І КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС, Я ПЕРАМАГУ. ВЫПАТРАШУ СЯБЕ МАЛАДОГА, БЫЦЦАМ РЫБУ. РАЗАРВУ ЯГО НА КАВАЛКІ. СПАЛЮ І РАСПУШЧУ ПРАХ ПА ЎСЯМУ СВАЙМУ КАРАЛЕЎСТВУ».
«Я ЗАСТАНУСЯ ПЕРАМОЖЦАМ».


«ЯК І ЗАЎЖДЫ».
КАНЕЦ.